Навіны

## Хроніка парушэнняў правоў чалавека

**Праваабарончы цэнтр "Вясна" прадставіў свой чарговы даклад — "Хроніка парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі ў 2000 годзе".**

Кіраўнік праваабарончага цэнтра "Вясна" Алесь Бяляцкі сказаў, звяртаючыся да прысутных, што ў параўнанні з мінулымі гадамі, аб'ём даклада павялічыўся на трэць. "І гэта ўказвае на тое, што сітуацыя з выкананнем правоў чалавека ў Беларусі далёка не ў самым лепшым стане", — зазначыў праваабаронца. У дакладзе, выдадзеным у выглядзе 170-старонкавай брашуры, шмат месца нададзена парушэнню палітычных правоў грамадзян. У якасці беспрэцэдэнтнага прыкладу прыводзіцца разгон мірнай дэманстрацыі 25 сакавіка 2000 года, калі было затрымана больш за 500 чалавек. У дакладзе адлюстраваны рэпрэсіі ўлад падчас кампаніі "Байкот-2000", калі падвергліся пераследу каля 150 чалавек. Больш за 100 чалавек затрыманыя падчас разгону маладзёжнай дэманстрацыі пад лозунгам "Пераменаў!", якая прайшла ў Мінску 12 лістапада 2000 года.

У дакладзе прыведзены факты крымінальнага пераследу палітычных, грамадскіх дзеячаў, прадпрымальнікаў, знікнення людзей у Беларусі, парушэння свабоды слова, пераследу палітычных партый і прафсаюзаў, дыскрымінацыі правоў грамадзян па рэлігійных прыкметах і нацыянальнай прыналежнасці, моўнай дыскрымінацыі і гэтак далей. Паводле звестак Алеся Бяляцкага, летась тым альбо іншым незаконным рэпрэсіям, зафіксаваных праваабарончым цэнтрам "Вясна", падвергліся некалькі тысяч чалавек. "Але гэтыя людзі не застаюцца сам-насам са сваімі праблемамі, — сказаў Бяляцкі. — Беларускія праваабаронцы, і, у прыватнасці, "Вясна", робяць усё неабходнае для аказання маральнай, матэрыяльнай, юрыдычнай падтрымкі гэтых людзей".

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## Аквапарк у Мінску

**Да верасня 2001 года ў Мінску будзе здадзена першая чарга аквапарка. Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі галоўны архітэктар горада, старшыня камітэта па архітэктуры, горадабудаўніцтве і землеўпарадкаванні Аляксандр Чадовіч.**

Паводле яго слоў, аквапарк, які "з'яўляецца раскошай у любой дзяржаве", будзе пабудаваны на базе спорткомплексу "Мінскпрамбуда" у раёне Партызанскага праспекта і вуліцы Сацыялістычнай. Дамоўленасць аб будаўніцтве была дасягнута падчас візіту дэлегацыі Мінгарвыканкама ў чэшскі горад Градзец-Кралове, дзе таксама размешчаны аквапарк. Кошт праекта — ад 5 да 8 мільёнаў доляраў ЗША. Будаўніцтва будзе ажыццяўляць фірма з Градзец-Кралове за кошт крэдыту, які, па словах Чадовіча, "выдзяляе чэшскі бок на вельмі выгадных умовах".

У верасні плануецца здаць у эксплуатацыю "спартыўную" частку аквапарка, а праз 10—12 месяцаў — "аздараўленчую, бальнеалагічную".

Мяркуецца будаўніцтва некалькіх басейнаў (у тым ліку са штучнай хваляй), джакузі, водных горак, фантанаў. "Ёсць і іншыя вельмі цікавыя прыдумкі, але я б не хацеў бы пра іх пакуль гаварыць, каб не сурочыць", — сказаў галоўны архітэктар.

На думку Чадовіча, мінскі аквапарк будзе прыбытковым. "Гэтага можна дасягнуць і пры недарагіх білетах, супастаўных з коштам наведвання басейна або лазні", — сказаў ён.

**Даведка БелаПАН.** Цяперашнім часам кошт аднаразовага наведвання басейна або лазні сярэдняга ўзроўню вагаецца ад 2 да 4 тысяч рублёў.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Прыслухаліся да "Народнай волі"

**У рэдакцыю газеты звярнуўся жыхар Краснаполля Магілёўскай вобласці І.Шаблакоў па жыллёвым пытанні. Ён паведамляў аб парушэннях заканадаўства ў райцэнтры.**

Яго допіс мы накіравалі ў Камітэт дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь. Днямі атрымалі адтуль адказ за подпісам намесніка старшыні Камітэта А.С.Салікава. У ім паведамляецца, што заява І.Шаблакова разгледжана. У ходзе праверкі выяўлены парушэнні норм жыллёвага заканадаўства работнікамі Краснапольскага райвыканкама. Магілёўскаму аблвыканкаму прапанавана правесці службовае расследаванне з мэтай прыцягнення да адказнасці службовых асоб райвыканкама, адказных за пастаноўку на ўлік, зняцце з уліка і прадастаўленне жылых памяшканняў грамадзянам. Даручана таксама аказаць садзейнічанне рэспубліканскаму унітарнаму прадпрыемству "Магілёўэнерга" ў забеспячэнні сям'і І.Шаблакова добраўпарадкаваным жыллём. Аб прынятым рашэнні рэдакцыя газеты і заяўнік будуць праінфармаваны.

## Раўкова "метадычна і планамерна забіваюць"

**Былы прарэктар Гомельскага дзяржаўнага медінстытута Уладзімір Раўкоў, які абвінавачваецца ў хабарніцтве і злоўжыванні службовым становішчам, заяўляе, што яго "метадычна і планамерна забіваюць у следчым ізалятары Гомеля". Гэтую заяву Раўкоў у пісьмовым выглядзе прадставіў ваеннай калегіі Вярхоўнага суда Беларусі, якая разглядае гэтую крымінальную справу, а таксама Кансультатыўна-назіральнай групе АБСЕ ў Беларусі і сродкам масавай інфармацыі.**

Абвінавачваемы падрабязна апісвае супрацьстаянне яго лячэнню з боку Вячаслава Цераховіча — кіраўніка следчай групы Пракуратуры рэспублікі. Як раней паведамляў БелаПАН, у маі мінулага года Цераховіч адмаўляў Раўкову ў лячэнні, матывуючы тым, што абвінавачваемы сімулюе сімптомы сардэчных боляў. Аднак сур'ёзны дыягназ Раўкова поўнасцю пацвердзіўся падчас яго лячэння ў бальніцы Камітэта выканання пакаранняў, куды ён быў дастаўлены пасля таго, як публічна назваў Цераховіча вінаватым у сваёй магчымай смерці.

Пасля вяртання ў пачатку студзеня ў следчы ізалятар Гомеля сімптомы аднавіліся, і 14 лютага па электракардыяграме, зробленай у абласным кардыядыспансеры, у Раўкова быў устаноўлены перадінфарктны стан. "Нестабільная стэнакардыя з'яўляецца экстранным паказаннем для шпіталізацыі. Такую задачу студэнты медінстытута вырашаюць за 5 хвілін", — піша ў сваёй заяве былы прарэктар. Яго гібель, лічыць Раўкоў, была б выгадная следству, паколькі схавала б "абуральныя парушэнні закона".

Уладзімір Раўкоў просіць накіраваць яго на стацыянарнае лячэнне, адзначаючы, што гэта зусім не азначае змянення яму меры стрымання, чаго так не хоча рабіць суд. Нагадаем, што 19 лютага ваенная калегія адмовіла падсуднаму ў шпіталізацыі.

**Ірына ШАНЦАВА..**

Журналистское расследование

# Особый случай

**Александр Аланов вышел за ворота Ивацевичской колонии 29 апреля 2000 года, отсидев от звонка до звонка семь лет. Из справки формы "Б", выданной тюремным учреждением УЖ 15/5, видно, что за 32 года с 1968 по 2000 год А.Аланов побывал за решеткой четыре раза, проведя в местах лишения свободы в общей сложности... 25 лет.**

2000 год — особый. Наступало третье тысячелетие. Перспективы XXI века волновали людей всех возрастов на всех континентах. Задумался об этом и Александр Сергеевич. Ему уже 55 лет. Позади большая часть жизни. Заработан статус особо опасного рецидивиста, но к нему ни кола, ни двора, ни... документов. А что впереди? Сгинешь, и никакая живая душа не вспомнит.

Мысли рецидивиста донеслись, видимо, до Всевышнего, потому как все же откликнулась на них одна женская душа. Приглянулся зек Аланов жительнице Климовичей Ларисе Штылевой. Чем и как — одному Богу известно. Причины и силу душевного притяжения измерять пока еще не научились. В таких случаях просто говорят: "Совет да любовь".

Увы, браки заключаются не на небесах, а на земле. Климовичской милиции "подарок" в лице рецидивиста Аланова пришелся явно не по душе. Ведь опыт правоохранительной деятельности свидетельствует, что вероятность исправления вышедшего на свободу преступника с четвертьвековым тюремным стажем ничтожно мала. Более того, этот матерый зек отказался к тому же сотрудничать с милицией по части стукачества. И...

Должностные лица Климовичского РОВД начали кампанию по изгнанию А.Аланова с подведомственной территории. Но, не имея для этого законных оснований, правоохранители, по моему мнению, стали на путь неправомерных действий. В нашей стране, как известно, и добропорядочному гражданину, на которого взъелись силовые структуры, несладко, рецидивисту же рот раскрыть нельзя: мгновенно упекут минимум лет на пять.

Необходимо отметить, что Александр Аланов — личность уникальная. За 40 лет взрослой жизни (после 16-ти) он ни разу не имел паспорта. Вернее, не имел своего. Чужие, под которыми скрывался от милиции, естественно, были.

Все эти годы, занимаясь преступной деятельностью, детдомовец Аланов не имел ни работы, ни определенного места жительства, ни прописки. В те годы на работу без паспорта с пропиской не принимали, а паспорт без справки с места этой самой прописки не выдавали. Но тогда паспорт не особенно-то был ему и нужен. Понадобился лишь на... 56-м году жизни.

За это время столько воды утекло, что даже политическая карта стала иной. Тюрьмы, в которых Александр провел свои молодые годы, и города, в которых он совершал свои преступные деяния, оказались в разных странах: России, Украине, Беларуси. А на руках у освободившего зека лишь свидетельство о рождении в г.Кубышеве (ныне — Самаре) и справка из белорусской колонии об освобождении под надзор милиции.

За свидетельство о рождении и ухватились в Климовичском РОВД. Объявили А.Аланова лицом без гражданства, отказались выдать паспорт и угрожали депортировать как иностранного гражданина в... Россию. Почему именно туда, сказать трудно. Возможно, руководители Климовичского РОВД некие "социал-националисты", которые вознамерились очистить Беларусь от "проклятых москалей"? Однако к России Александр Сергеевич ныне имеет ровно такое же отношение, как и к любой иной стране СНГ. Если исходить из факта рождения, так климовичские "национал-блюстители" порядка и меня могут депортировать из Беларуси во Владивосток по месту моего рождения.

На момент введения в 1991 году белорусского закона о гражданстве А.Аланов, в отличие от меня, гражданина с пропиской, был без оной, хотя и проживал в Беларуси. Правда, факт этот ни подтвердить, ни опровергнуть ныне невозможно. Зато документально подтверждено восьмилетнее пребывание Александра Сергеевича в нашей стране с 1992-го по 2000 год. Срок — более чем достаточный для получения белорусского паспорта, тем более при условии вступления в брак с гражданкой нашей страны.

Только вот для бывшего зека, решившего стать на путь исправления, оказывается, и жениться-то проблема. Ситуация трагикоанекдотическая. Чтобы получить свидетельство о браке, надо представить в загс паспорт. Чтобы получить паспорт, надо представить в РОВД свидетельство о браке. И там и тут зеку Аланову дали от ворот поворот.

Из ответа прокурора Климовичского района Ларисе Штылевой:

*"Сообщаю, что по Вашим заявлениям, поступившим в Администрацию президента и прокуратуру республики, о даче Аланову А.С. разрешения на постоянное жительство в Беларуси проведена проверка. Установлено, что Аланов А.С. не имеет паспорта, представляемого для получения разрешения на постоянное жительство". "В связи с тем, что Аланов А.С. не имеет паспорта, Климовичским райотделом загса обоснованно Вам отказано в регистрации брака". "Ваши повторные обращения по аналогичным вопросам будут являться безосновательными и поэтому переписка по вопросам, изложенным в обращении с Вами прекращается".*

Женщины наши способны не только коня на скаку остановить и в горящую избу войти. Настойчивость Ларисы Ефимовны в создании семейного очага — в различные инстанции направлено около сотни (!) заявлений — разорвала, в конце концов, этот порочный круг. Управление паспортно-визовой службы МВД дало разрешение на прописку, а Министерство юстиции — на регистрацию брака. И в ноябре 2000 года Лариса Шмелева получила в Климовичском загсе документ о признании государством Александра Аланова ее законным мужем.

Это весьма существенно, потому как до того момента, в течение семи месяцев, во всех судебно-милицейских документах и ответах государственных органов мужа Ларисы Ефимовны именовали... сожителем. Термин этот в Уголовном и Административном праве отсутствует. Лица, проживающие совместно и ведущие общее хозяйство, именуются как "члены семьи" (статья 4 УК). Употребление официальными лицами слова "сожитель" по отношению мужчине, которого женщина назвала мужем, свидетельствует, в лучшем случае, о правовой безграмотности должностных лиц, хотя не исключено, что в данном случае имеет место глумление над чувствами людей.

После получения статуса мужа прошло три месяца, однако паспорта до сих пор А.Аланов не имеет. Вместо удостоверения личности получил... пятую судимость.

Из приговора суда Климовичского района от 23 ноября 2000 года:

*"Аланова Александра Сергеевича признать виновным в нарушении правил пребывания лицом без гражданства в Республике Беларусь... Назначить наказание в виде штрафа в размере 15 МЗП в сумме 54.000 рублей". "Вина Аланова А.С. в совершении преступления полностью подтверждается материалами дела: протоколами административного правонарушения, копией приговора, справкой об освобождении, показаниями свидетелей".*

Несправедливый приговор — только так можно охарактеризовать данное судебное решение. Ведь ни одно из перечисленных обстоятельств, по моему мнению, не может служить подтверждением факта совершения преступления.

Особо хочу остановиться на угрозах в адрес А.Аланова о выдворении из Беларуси.

Из обвинительного заключения, представленного суду Климовичским РОВД:

*"Ему (Аланову) было разъяснено, что он должен либо покинуть территорию Республики Беларусь, либо оформить документ на право жительства в Республике Беларусь. Территорию Республики Беларусь он покинуть не смог, так как у него нет ни родственников, ни жилья вообще. Документы оформить он тоже не смог по указанным выше основаниям".*

*"Из прокуратуры пришел ответ, где было сказано, что разрешение на проживание в Республике Беларусь ему выдано быть не может, так как для этого нет оснований. Аланов А.С. предупреждался, что он обязан покинуть территорию Республики Беларусь".*

*"У Аланова А.С. отсутствует паспорт и документы, подтверждающие его принадлежность к какому-либо государству". "...а также он ни с кем не состоит в браке, что, согласно закону, является одним из условий проживания на территории Республики Беларусь". "Оснований для выдачи паспорта Аланову А.С. также нет".*

Таким образом, из обвинительного заключения неотвратимо следует: поскольку выдворить Александра Аланова в любую страну мира оснований нет, а основания для его проживания на территории Республики Беларусь Климовичский РОВД оформлять не намерен, то рецидивиста А.Аланова остается только водворить в тюрьму до конца его жизни за... несовершение преступления.

В Республике Беларусь, судя по вышеизложенному, возвращение к нормальной жизни раскаявшихся преступников, искупивших свою вину перед обществом и государством, не предусматривается.

**Валерий ЩУКИН.**

Вераніка АНТАНЕВІЧ і Калініка МЯДЗВЕДЗЕВА вучацца маляваць у дзіцячай студыі Палаца культуры прафсаюзаў г.Брэста. Дзяўчынкам па адзінаццаць гадоў, а яны ўжо ўдзельнічалі ў конкурсе малюнкаў на японскім тэлебачанні. Вераніка заваявала там бронзавы медаль, а Калініка — тры сярэбраных і вялікі залаты медаль!

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

Факт і каментарый

# Шоу будзе. А хлеб?..

*Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб скліканні 2-га Усебеларускага народнага сходу. Указам прадугледжана:*

*— склікаць 18 мая 2001 года 2-і Усебеларускі народны сход у Мінску;*

*— устанавіць склад удзельнікаў народнага сходу ў колькасці 2500 чалавек, у тым ліку ад Мінска — 400 чалавек, ад кожнай вобласці — па 350 чалавек;*

*— вынесці на абмеркаванне 2-га Усебеларускага народнага сходу пытанне аб Праграме сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2001—2005 гг.*

Як бачым, чакаецца чарговае грандыёзнае прапагандысцкае шоу. Напэўна, зноў будуць абяцаць бедным беларусам залатыя горы і малочныя рэкі, каб толькі пераканаць іх прагаласаваць на прэзідэнцкіх выбарах за Лукашэнку. Будуць так абяцаць, як і рабілі гэта пяць гадоў таму, перад першым так званым Усебеларускім народным сходам. Яны, напэўна, думаюць, што людзі ўсё забылі, не помняць пра іх абяцанні пяцігадовай даўнасці.

А абяцанкі былі даволі цікавыя. Перада мной брашура "Асноўныя напрамкі сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996—2000 годы". Тыя самыя "Асноўныя напрамкі...", якія былі ўхвалены першым Усебеларускім народным сходам. Давайце пачытаем іх і прыкінем, ці ж выканана хоць што-небудзь з намечанага.

На старонках 5—6 дакумента сцвярджаецца, што да 1997 года будзе дасягнута зніжэнне інфляцыі да 1,5—0,5 працэнта ў месяц, зменшаны падатковы прэс, палепшана фінансавае становішча прадпрыемстваў... На самай справе ўсё стала яшчэ горш. Тая ж інфляцыя скача з месяца ў месяц ранейшымі высокімі тэмпамі, амаль палова прадпрыемстваў стратныя.

Чытаем "Асноўныя напрамкі" далей. "Асноўнымі мэтамі аграрнай рэформы з'яўляецца пераадоленне негатыўных тэндэнцый і забеспячэнне ўстойлівага развіцця АПК". А цяпер зірнем у афіцыйную статыстыку, паглядзім, як ішло ў наступныя гады "пераадоленне негатыўных тэндэнцый". Аказваецца, калі ў 1995 годзе ў краіне было 2180 тысяч кароў, дык у 2000-м — толькі 1242 тысячы. Свіней за гэты час паменела з 4005 тысяч галоў да 2084 тысяч. Пагалоўе жывёлы зменшылася прыкладна ў два разы. Вось дык "забеспячэнне ўстойлівага развіцця!

**У прадстаўнікоў улады ёсць толькі адзін сумленны і прыстойны выхад з сітуацыі — папрасіць у народа прабачэння і пайсці ў адстаўку. А яны наладжваюць прапагандысцкае шоу.**

У тых "Асноўных напрамках" гаварылася аб стварэнні фонду фінансавай дапамогі, з якога будуць выдзяляцца сродкі на закупку неабходнай сельскагаспадарчай тэхнікі. Спецыялісты падлічылі, што ў параўнанні з 1994 годам на вёсцы колькасць трактароў, грузавых аўтамабіляў, зернеўборачных камбайнаў зменшылася ў 1,5 раза, бульбаўборачных і льноўборачных камбайнаў — у 2,2 раза, плугоў — у 1,7 раза, сеялак — у 1,9 раза, камбайнаў для ўборкі цукровых буракоў — у 2,3 раза...

"У мэтах узмацнення сацыяльнай абароны і паляпшэння матэрыяльнага забеспячэння работнікаў адукацыі прадугледжваецца паслядоўнае павышэнне іх аплаты працы за кошт упарадкавання тарыфных ставак і акладаў у залежнасці ад прафесійнага ўзроўню, значнасці і адказнасці выконваемых работ", — абяцалася ў згаданым дакуменце. Прайшло амаль пяць гадоў. І што мы бачым? У канцы мінулага года настаўнікі сабралі каля 180 тысяч подпісаў да кіраўніцтва краіны з патрабаваннем падняць іх зарплату хоць бы да сярэдняга ўзроўню аплаты працы ў прамысловасці. А ўлады адмахнуліся ад іх звычайнай адпіскай.

"Галоўным вынікам рэалізацыі праграмы будзе рэальнае і ўстойлівае павышэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва Рэспублікі Беларусь", — чытаем далей у тым дакуменце. Абяцалі адно, а выйшла супрацьлеглае. Калі ў 1998 годзе на сярэднюю зарплату можна было купіць 222 кілаграмы мукі пшанічнай, 153 кілаграмы крупы, 33 кілаграмы варонай каўбасы, дык цяпер адпаведна толькі 200, 114 і 26 кілаграмаў. Цукру раней можна было купіць за сярэднюю зарплату 159 кілаграмаў, яблык 172, а зараз адпаведна 132 і 66 кілаграмаў...

Спатрэбіцца пяць гадоў напружанай працы, каб вярнуцца да таго ўзроўню эканомікі, які быў у 1996 годзе. Дык які сэнс праводзіць чарговае шоу і даваць новыя абяцанкі? Пасля такога гаспадарання для прадстаўнікоў улады ёсць толькі адзін сумленны і прыстойны выхад з сітуацыі — папрасіць у народа прабачэння і пайсці ў адстаўку. А яны наладжваюць прапагандысцкае шоу.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

Конфликт

# Имущество для узкого круга,

## или Размышления у разбитого "Коллажа"

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Зарплата была солидной, прибыль росла, но не "проедалась", а вкладывалась в развитие производства. "Коллаж" приобретал современное оборудование, строил жилье, налаживал новый цех по ремонту электродвигателей. Добротность изделий позволила найти партнеров в Эстонии.

Так было до 1997 года, когда Людмила Федоровна Ковалевская решила приватизировать "Коллаж", стать его хозяйкой. По мнению части коллектива, законных оснований для этого не было. Ковалевская понимала, что общее собрание не примет желанного для нее решения. И тогда она созвала небольшую группу работников, число которых вместе с Людмилой Федоровной составило 14 человек. Став "дирижером" этого меньшинства (около четверти всего коллектива), Ковалевская предложила изменить устав предприятия и превратить его из коллективного в ООО и разделить совместное имущество на персональные доли. При этом доля директора должна была почему-то составить 59 процентов, а всем прочим предлагалось взять оставшееся — 41 процент.

Ветеран Олег Щуко, понимая, что происходит, настаивал на созыве общего собрания, но Ковалевская упорно возражала. Трения по поводу раздела долей в протокол схода так и не попали. В итоге получилось в соответствии с любимой поговоркой Людмилы Федоровны: "Мы посоветовались, и я решила".

Тогда и стало ясно, почему Ковалевская создает в "Коллаже" обстановку, ведущую к сворачиванию основного производства, разрывает отношения с надежными, перспективными партнерами, отвергает (часто в грубой форме) предложения специалистов по наращиванию объемов выпуска высококачественных изделий. Словом, ведет себя так, будто гибель "Коллажа" — ее заветная цель. Новоявленную владелицу частного предприятия не волнует ни прекращение деловых связей с заказчиками, ни простой оборудования, ни падение уровня зарплаты до позорных размеров, подталкивающее людей к увольнению "по собственному желанию". Ковалевская выжила с предприятия тех, кем восхищалась в журнальном интервью 1996 года: Леонида Макаревича, Олега Щуко, других ветеранов.

Параллельно Ковалевская распродает имущество "Коллажа". Ни с кем не советуясь.

Бывшие ее соратники диву даются, узнавая, например, что дорогостоящее сырье (пластикат, полиэтилен) распродается по бросовым ценам или вовсе раздается иногородним фирмам. Так, в июле 2000 года три тонны пластиката стоимостью в пределах 2 тысяч долларов США (по рыночным ценам) ушли в Минск... за 50 тысяч рублей! Витебскую квартиру, приобретенную "Коллажем" в хорошие времена под представительский офис, Людмила Федоровна сбыла в июле 1996 года за 27 миллионов рублей, что составляло около 800 долларов США — гораздо дешевле реальной стоимости. В одночасье "исчезли" гараж, автомобиль РАФ, а также штукатурная станция и другое оборудование, безосновательно списанное по указанию Ковалевской.

Приобретенный за коллективные средства картофелеуборочный комбайн, не поработав ни дня, превратился по документам в металлолом. Обесценившись таким образом, дорогая машина переместилась в состав личного имущества знакомого Ковалевской.

Коллективное предприятие "Коллаж", работники которого могли бы дружно и успешно продолжать производство кабеля и ремонт электромоторов, с горечью и обидой видят, как инициатор создания "Коллажа" упорно стремится развалить, уничтожить его. При этом действует по банальной схеме, которая широко использовалась новыми магнатами России: сначала разорить предприятие, разогнать коллектив, а затем провернуть "прихватизацию", чтобы продать сооружения и оборудование по сходной цене, и, конечно, с выгодой для себя.

Кроме разных материалов, хранящихся на складах ценностей, общая стоимость которых года три назад составляла около 200 тысяч долларов США, у "Коллажа" есть так называемый "Дом услуг" — шикарный дворец, напоминающий замок средневекового феодала. Здесь планировалось разместить много доходных и полезных учреждений: расчетный узел банка, ресторан, парикмахерскую, гостиницу, спортивно-оздоровительный центр, культурный центр, офис "Коллажа". Но разруха, сменившая прежний достаток предприятия, не дает возможности осуществить задуманное. "Дом услуг", на который потрачены десятки тысяч долларов, приспособлен под большую кладовую, где хранятся разные товары, приобретенные давно, когда цены были "смешными".

Работники "Коллажа" говорят, что всем этим добром распоряжается Ковалевская. Похоже, что хочет она распорядиться и самим дворцом. По мнению тех, кто руководил его постройкой, здание можно продать очень дорого. Но даже если Людмила Федоровна уступит "Дом услуг" за полцены, то ей и 59% этого хватит на "карманные расходы". Если, конечно, Хозяйственный суд области не признает решение собрания 14 "избранных" фикцией. На что, кстати, крепко надеются разогнанные Ковалевской ветераны "Коллажа". Еще не поставлена точка и в уголовном деле, которое расследует прокуратура Бешенковичского района по фактам незаконной распродажи коллективного имущества: комбайна, сырья и других ценностей.

Что и говорить, напористая она и волевая, Людмила Федоровна. Не любит останавливаться на пути к цели. Появился "Коллаж" — мало. Нашлись рынки сбыта — недостаточно. Потекла прибыль — это цветочки, нужны ягодки. Хочется быть хозяйкой всего: и продукции, и помещений, и доходов, а главное — людей. Чтобы никто пикнуть не смел, даже когда директор, вопреки здравому смыслу, выделяет за счет коллектива построенную квартиру своему бывшему мужу, который в "Коллаже" не работал.

Побывав на стажировке в США, Людмила Федоровна очень хвалила жизнь за океаном. "У них, — рассказывала она, — рабочие дорожат своим местом. — А у нас? Приходится вести борьбу с доморощенными воришками.

А ведь не так уж давно и в "Коллаже" была минимальная текучесть кадров, никто не приходил на работу "под мухой".

Теперь — иное дело. Люди действительно перестали дорожить рабочим местом. А чем дорожить? Остановившимся производством? Мизерными заработками? Директором, потерявшим доверие и уважение коллектива?

Иной, не имея средств на пропитание, может быть, и сопрет кусок кабеля. И подумает в оправдание: "Начальство машины разбазаривает, значит, и мне кое-что взять не грех". Рыба, мол, гниет с головы.

Кстати, о рыбе. Размышляя о печальной судьбе "Коллажа", который стал жертвой амбиций его директора, невольно вспомнишь пушкинскую "Сказку о рыбаке и рыбке". Там жадной героине всего было мало: и нового корыта, и дворянского титула, и роскошного дворца.

Захотелось ей стать владычицей морскою.

А ведь Людмила Федоровна Ковалевская имела возможность одуматься. Не лучше ли было уступить закону и коллективу, чем оказаться у разбитого корыта?

Ведь все, как ни печально, именно к такому концу идет.

**Сергей БУТКЕВИЧ,**
**Владимир ЖИГУЛОВ.**
**г.Витебск.**

**P.S.** *Когда материал готовился к печати, стало известно, что Хозяйственный суд Витебской области 14 февраля 2001 года удовлетворил иск оппонентов Ковалевской и признал учредительный договор ООО "Коллаж" 1997 года недействительным.*

## МВФ дапаможа пры жорсткай умове...

**Паміж урадам Беларусі і Міжнародным валютным фондам дасягнута папярэдняя дамоўленасць аб ажыццяўленні праграмы эканамічнай рэформы тэрмінам на 6 месяцаў, маніторынг якой будуць ажыццяўляць супрацоўнікі фонду. Пра гэта заявіў сп. Хортан, пастаянны прадстаўнік МВФ у Літве і Беларусі на прэс-канферэнцыі.**

Праграма не прадугледжвае якой-небудзь фінансавай падтрымкі Беларусі з боку фонду. Аднак, калі яе ажыццяўленне будзе паспяховым, гэта дапаможа прывесці да больш шырокага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і МВФ і, магчыма, да выдзялення крэдытных рэсурсаў стэнд-бай. Пагадненне падлягае зацвярджэнню ў кіраўніцтва МВФ і будзе ажыццяўляцца пры ўмове выканання беларускімі ўладамі трох "абавязковых папярэдніх умоў". Гэтыя ўмовы ўключаюць:

— перагляд дзяржбюджэту на 2001 год, што павінен адбыцца ў сярэдзіне красавіка. Мяркуецца, што будзе ўрэзана крэдытная падтрымка ўрада з боку Нацыянальнага банка і прадпрынятыя крокі для мінімізацыі негатыўных наступстваў плануемага павелічэння сярэднемесячнай зарплаты да 100 доляраў ЗША (у эквіваленце). На перамовах з місіяй другога Еўрапейскага ўпраўлення МВФ пад кіраўніцтвам спадарыні Марты Кастэла дэ Бранка, якія завяршыліся сёння раніцай, урад даў зразумець, што дадзенае павелічэнне не можа быць прадметам перамоў;

— спыненне ўціску на камерцыйныя банкі з мэтай крэдытавання сельскай гаспадаркі і іншых сектараў эканомікі. Паводле слоў спадара Хортана, любыя субсідыі сельскай гаспадарцы і іншым сектарам павінны ажыццяўляцца праз бюджэт, а не працісквацца праз камерцыйныя банкі;

— цэнавую лібералізацыю. Як заявіў БелаПАН спадар Хортан, урад абавязаўся скасаваць максімальныя абмежаванні штомесячнага росту цэн (у дачыненні да 80 працэнтаў тавараў) да 1 красавіка.

**Алесь АБРАМОВІЧ.**

## Генеральнае консульства Беларусі ў Славакіі

**Афіцыйнае адкрыццё генеральнага консульства Беларусі ў Славакіі запланавана на сакавік бягучага года. Пра гэта паведаміў БелаПАН генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Славацкай Рэспубліцы Сяргей Машонскі напярэдадні свайго ад'езду ў Браціславу.**

Генеральны консул зазначыў, што прынятае летась у жніўні рашэнне аб павышэнні статусу беларускай замежнай установы ў Славакіі і пашырэнні яго штатнага складу да двух дыпламатаў абумоўлена дынамікай росту двухбаковых беларуска-славацкіх стасункаў у палітычнай, эканамічнай і гуманітарнай сферах. Апрача таго, нагадаў Машонскі, славацкі бок адкрыў у Беларусі сваё генконсульства значна раней, а з восені 2000 года працуе на ўзроўні пасольства, на крок апярэджваючы Беларусь у гэтым пытанні.

**Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН.**

